**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.
**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## 15-АЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

Прэзыдэнту ЗША Рэйгану, губэрнатару Нью Джэрзі Кейну, а таксама лісты ў Дзяржаўны Дэпартамант ЗША ў справе дапамогі Міхалу Кукабаку выехаць з Савецкага Саюзу ды ў адміністрацыю „Голасу Амэрыкі" з просьбай аб уводзе беларускае мовы ў радыяперадачы „Голасу".

**Канцэрт і баль**

Па кароткім перапынку, у тэй-жа залі, адбыўся канцэрт.

Саліст Багдан (Данчык) Андрусышын выканаў „Спадчыну" І. Лучанка на словы Купалы (пераплятаючы беларускія звароткі з ангельскімі, пераклад Веры Рыч), „Я ад вас далёка" М. Куліковіча на словы Купалы, „Мой родны кут" Лучанка на словы Я. Коласа ды на біс — „У гушчарах" Куліковіча на словы Н. Арсеньневае. Джымі Бычкоўскі, студэнт вышэйшае музычнае школы, выканаў „Гусьляра" Алеся Карповіча й вальс у Э міноры Шапэна. Танцавальная група „Васілёк" (пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана) выступіла з „Полькай Янка" і „Лявоніхай". Усе нумары былі вельмі цёпла прынятыя публікай і шчодра ўзнагароджаныя воплескамі. Апрача гэтага, з магнітафоннага запісу быў праслуханы пачатак драматычнае паэмы І. Лучанка „Гусьляр" на словы Купалавага „Кургана" ў выкананьні „Песьняроў".

Баль, пад гукі аркестры Уладзімера Бычкоўскага, пры гутарках-успаміх і гутарках-плянах, трываў далёка за поўнач. У кожнага было выразнае адчуваньне ўдачы й задаваленьня, што высілкі й выдаткі далі добры плён.

**Багаслужба й абед**

У нядзелю ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку Архіепіскап Мікалай у суслужэньні духавенства БАПЦ адслужыў сьв. Літургію. У сваёй казані Уладыка паясьніў эвангельскую прытчу пра вінаградараў, якія, узяўшы ў часовую арэнду вінаграднік, не хацелі пасьля аддаць яго гаспадару ягонаму.

Айцец Аляксандар Надсон адслужыў сьв. Імшу ў касьцеле сьв. Пятра ў Нью Брансьвіку і сказаў прынагодную казань.

Супольны абед у падцаркоўнай залі, над рыхтаваньнем якога з добрай удачаю шмат папрацавалі сябры й сяброўкі мясцовага ддзелу БАЗА, парахвіяне й парахвіянкі, прайшоў пры паўнюткай залі.

Прысутных вітаў сп. П. Кажура, старшыня мясцовага аддзелу БАЗА.

У часе абеду былі выступленьні: сп. Анатоль Цярэшка на просьбу прачытаў свой верш, прысьвечаны роднай мове (гл. у гэтым нумары газэты); др. Я. Запруднік зьвярнуўся з просьбай скласьці традыцыйную на Сустрэчах ахвяру на газэту „Беларус" (гл. фін. справаздачу ў гэтым нумары); а. А. Надсон паінфармаваў пра Бібліятэку й Музэй імя Франьцішка Скарыны ў Лёндане ды патрэбу стварэньня грашовага фонду, які забясьпечыў-бы трывалае існаваньне гэтай важнай беларусаведнай інстытуцыі; сп. К. Акула паінфармаваў пра грашовую запазычанасьць часапісу „Зважай" ды патрэбу грашовае дапамогі часапісу; сп. А. Шукелойць вітаў сп. К. Акулу з 40-годзьдзем грамадзкай працы; а. Расьціслаў Войтанка гаварыў пра „арлоў" і „галубоў" ды патрэбу прымірэньня; сп-ня Марыя Войтанка прадэклямавала верш Янкі Купалы „Беларушчына".

Была праведзеная лятарэя — разыграныя два фанты, падораныя сп. М. Шустом, інкруставаныя саломкаю шкатулка й рамка, ды кніга творчасьці А. Салаўя, — каб гэтак папоўніць касу БАЗА. Людзі ахвотна бралі даляровыя білеты.

**Рэфэрат і ўспаміны пра Купалу й Коласа**

Увечары ў нядзелю ў тэй-жа залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру праф. Ант. Адамовіч прачытаў даклад пра Купала-Коласаўскае Стагодзьдзе — агляд пэрыяду 1882-1982 гадоў на Беларусі, характэрнай асаблівасьцяй якога было станаўленьне справы беларускага адраджэньня, найвыдатнейшымі выказвальнікамі якога сталіся Купала й Колас. Прэлегэнт спыніўся дэтальней на стаўленьні Янкі Купалы да савецкае ўлады й савецкае ўлады да Купалы й Коласа. Даклад быў вельмі цікавы, шмат хто з аўдыторыі выказваўся пасьля з захапленьнем пра яго. Спадзяёмся, што будзем мець нагоду азнаёміць зь ім чытачоў „Беларуса". Сп-ня Н. Орса падзялілася сваймі ўспамінамі пра сустрэчу зь Янкам Купалам у Маскве, калі йшчэ была 12-гадовай дзяўчынкай (Купала браў тады ўдзел у беларускім культурным жыцьці ў Маскве, памагаў арганізаваць там беларускі хор і гурток мастацкае самадзейнасьці).

**За два гады — у Кліўленьдзе**

На праведзеным таго-ж вечару супольным паседжаньні старшыняў было пастаноўлена, што наступная 16-ая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі адбудзецца на „Полацку" ў Кліўленьдзе. Кліўлендцы ня пэўныя, ці ўдасца ім, але будуць рабіць усе намаганьні, каб да таго часу скончыць будаўніцтва залі на „Полацку". Пажадаем ім удачы ў гэтым, але адразу-ж скажам: з заляй „Полацак" ці безь яе, мы заўсёды радыя бываць там, любім „палачанаў" за іхную дружнасьць і гасьцінасьць. А тымчасам падзякуем працавітым і гэткім-жа гасьцінным ньюджэрзійцам, што ўпісалі слаўную старонку ў гісторыю Сустрэчаў Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

**Я. З.**

## ПРАМОВА АЙЦА А. НАДСОНА

Дастойны Уладыка, спадар Старшыня і ўсе Дарагія мае!

Хачу прызнацца, што я прыехаў сюды, даехаў да Гальцэй Ін і чуць не завярнуў назад. Чаму? Там быў напіс: Welcome to Byelorussians of North America! А я з Эўропы, і ня ведаў, ці тут будзе для мяне „ўэлкам" ці не. (Сьмех у залі) Але мае сумлявальні трывалі вельмі коратка, бо як я ўвайшоў сюды, я адразу пабачыў, як мяне прынялі цёпла й сардэчна ўсе Беларусы, бо, дарагія мае, я папаў у сваю сям'ю. Хацеў сказаць „прыехаў да вас", але-ж мы ўсе Беларусы, дык я чуюся ў сябе. Бо дзе-б мы ні былі, мы перш-наперш Беларусы. Гэта тое, што нас сабрала сёньня тут.

Бязумоўна, мы жывём далёка ад нашай Бацькаўшчыны, многія з нас — ужо шмат гадоў — і ў розных краінах, у розных абставінах. Ёсьць розныя жыцьцёвыя патрэбы. Але, жывучы на эміграцыі, далёка ад Бацькаўшчыны, вельмі лёгка можа вытварыцца такая мэнтальнасьць месца: мы зачыняемся ў сваёй маленькай групе і здаецца нам, што нашыя справы, нашыя інтарэсы, нават нашыя сваркі робяцца, быццам, найважнейшыя, і мы думаем, што робім вялікую нацыянальную справу. У гэтым ёсьць небясьпека. І дзеля гэтага нам добра сустрэцца часам з розных краінаў разам, каб прыпомніць сабе, што мы — частка аднаго вялікага беларускага народу.

Калі мы — частка беларускага народу, дык нам трэба прыслухоўвацца, як жыве народ, што аддзелены ад нас, чым ён жыве, каб нам не застацца ізаляванымі. Ці там добра ці дрэнна, нам ведаць трэба. І мы павінны адчуваць, што найбольш патрэбнае для беларускага народу. І вось сяньня пры такой урачыстасьці, важна задаць сабе пытаньне, зрабіць сабе такі рахунак сумленьня: перш-наперш, што найбольш патрэбнае для беларускае справы, чаго нельга рабіць на Бацькаўшчыне? І спытаймася сябе: а ці-ж мы гэта робім, ці мы выконваем усё? Ці мы ня трацім нагоды? Гэта будзе наш нацыянальны рахунак сумленьня. Бо мы маем сілы, маем магчымасьці. Але ці мы ня трацім гэтых магчымасьцяў, ня трацім намарна сілаў?

Дык вось сёньня асабліва гэта важна, каб гэта адчуваць. Будучы сьвятаром, бязумоўна, я не хацеў-бы казаць тут казані. Але скажам адну рэч вельмі важную: мы тут усе і праваслаўныя і каталікі — хрысьціяне. Цяпер у нас на Бацькаўшчыне вельмі цяжка быць хрысьціянінам, вельмі цяжка практыкаваць нашую рэлігію. Шмат маладых ня маюць магчымасьці нават пазнаць нашую рэлігію. Дык нам, як хрысьціянам, трэба маліцца падвойна: за Бацькаўшчыну і за тых, якія церпяць, якія ня могуць маліцца, якія ня могуць пазнаць веры і прыйсьці да Бога, таму што ім у моц абставінаў гэта немагчыма.

Калі мы кажам „Ойчы наш", ці мы думаем пра гэтыя словы — чаму мы кажам „Ойча наш" — ня „Ойча мой", ня „Ойча твой", але „Ойча наш"? Айцец наш нябесны Бог — і мой, і твой, і яго, і яе — усіх нас. Значыцца, мы — адна сям'я, мы — дзеці аднаго Айца Нябеснага. А ці мы захоўваемся такім чынам? Ці мы думаем пра гэта, — што мы, як дзеці Айца Нябеснага, — сябры адной сям'і? Вельмі важна мець гэтае паняцьце і рабіць, каб якраз мы жылі адной сям'ёй, што мы ўсе — браты, дзеці адной Божай сям'і.

Сёньня ў нас вялікая ўрачыстасьць: мы сьвяткуем стагадовы юбілей нашых вялікіх Песьняроў — Купалы й Коласа. Але Купала й Колас ня былі першымі. Былі й да іх людзі, якія, як той Іван Хрысьціцель, што прыгатаваў прыход Хрыста, рыхтавалі прыход Купалы й Коласа. Былі браты Іван і Антон Луцкевічы, Уласаў, Ядзьвігін Ш. ды іншыя. Часамі мы ня думаем пра іх, бо яны таксама, быццам адыйшлі ўбок, даўшы месца волатам. Шкада, што тут няма прафэсара Адамовіча сярод нас. Мы павінны быць яму вельмі ўдзячныя за тое, што ў апошніх нумарох „Беларуса" ён прыпомніў нам аб адным такім чалавеку, выдатным чалавеку, які падрыхтаваў грунт для прыходу Купалы й Коласа — аб Івану Луцкевічу. Спадзёмся, што ў хуткім часе паявяцца й іншыя падобныя артыкулы, каб нам прыпомніць аб тых людзях.

Дык Купала й Колас прыйшлі пасьля ўжо, на грунт узрыхтаваны, але адразу яны выйшлі наперад і занялі перадавое месца. Купала са сваім магутным талентам стаўся адразу правадыром беларускага народу, ягоным трыбунам, які выказваў найглыбейшыя запаветныя імкненьні ўсяго народу, стаўся нашым духовым правадыром. Якуб Колас са сваім веданьнем жыцьця народнага апісаў гэтае жыцьцё, даў нам вобраз усяго, чым і як жыве Беларус, даў вобраз душы ягонай.

І яны падзялілі таксама лёс Беларусі. Калі Беларусь уздымалася, яны былі ведамыя, калі пасьля зламалі Беларусь, і іх зламалі. Апошнія гады іх былі цяжкія.

Дык вось возьмем зь іх прыклад службы народу. Яны ўсё аддалі Беларусі — не патое, каб сабе славу здабыць, але яны былі ўдзячныя народу за тое, што ён ім даў, за тое, што былі Беларусамі.

І калі ўзяць прыклад вялікага расейскага паэты Пушкіна і, скажам, Купалы. Пушкін, насьледуючы клясычных паэтаў, напісаў ведамы верш: „Я памятник воздвиг себе нерукотворный, к нему не зарастет народная тропа". Ён ведаў сабе цану. Ён спадзяваўся на ўдзячнасьць свайго расейскага народу за тое, што ён зрабіў. Купала ў адным із сваіх апошніх амаль вершаў, перад тым як яго зламалі, напісаў, што ён не чакаў помніка, не чакаў удзячнасьці, але затое пісаў: „Я адплаціў народу, чым моц мая змагла, зваў з путаў на свабоду, зваў зь цемры да сьвятла". А Колас спа-

(Заканчэньне на бач. 3-й)



Банкет Сустрэчы. Прамаўляе праф. Дж. Дынглі

(Усе здымкі з Сустрэчы А. Сільвановіча)



„Васілёк" выконвае беларускі народны танец



Багаслужба ў царкве Жыровіцкае Маці Божае ў Гайлэнд Парку



Па багаслужбе перад царквой



Абед у падцаркоўнай залі

## „ДОБРАЯ БЫЛА СУСТРЭЧА!"

**(Успамін пра Янку Купалу)**

Гэты кароткі сказ паўтараецца пры розных нагодах: у сям'і, пры сустрэчах з суродзічамі або й з чужынцамі, у карэспандэнцыях і будзе паўтарацца даўжэйшы час.

Пра нашую 15-ю Сустрэчу і ейную ўдачу паінфармуюць чытачоў ейныя арганізатары, карэспандэнты. Есьць пра што пісаць, і трэба зафіксаваць яе акуратна у прэсе, каб памяць пра яе жыла.

Сустрэча была прысьвечаная пісьменьнікам-паэтам Янку Купалу й Якубу Коласу. На адным пункце праграмы Сустрэчы хачу спыніцца — на Янку Купалу.

Выдатна апрацаваў рэфэрат пра Янку Купалу праф. Ант. Адамовіч, выдатна яго нам з памяці пераказаў, аздобіўшы цытатамі Купалавых вершаў.

З захапленьнем ўспрынялі слухачы той рэфэрат.

Неспадзеўкай было аднак для мяне (ды хіба й для іншых), што з такога вялікага ліку прысутных не знайшлося (за вынятнам аднае спадарыні) нікога больш, хто-б сказаў слова пра Янка Купалу, як пра Чалавек — жывога чалавека, зь якім сустрэўся, гаварыў, сьлед якога застаўся ў памяці на ўсё жыцьцё.

Ніякавата я сябе адчувала — я-ж магла-б падрыхтаваць слова-ўспамін, а выступіць экспромтам не адважылася. Дый час быў позьні, слухачы перамучаныя.

Але, як кажа прымаўка, „лепш позна, як ніколі". Дык вось я і наважылася падзяліцца ўспамінамі пра сустрэчу з паэтам Янкам Купалам.

Гэта быў год 1940, час — канец лістапада, месца — Наваградак.

А здарылася тая сустрэча неспадзявана, як у казцы.

Звоніць тэлефон, бяру трубку й чую мужчынскі голас: „Гаворыць Янка Купала, я хачу сустрэцца з Станіславам Станкевічам".

Я сумелася ад зьдзіўленьня, але трубку трымаю, трэба-ж нешта сказаць у вадказ, а ў галаве адразу думка: як-жа й мне на тую сустрэчу ўпрасіцца? „Станкевіча няма у хаце, — адказваю, — але ён напэўна з радасьцяй захоча спаткацца. А ці я магу таксама?" — голас мой заламаўся. Чую Купала адказвае: „Чакаю вас абаіх у хатцы Адама Міцкевіча". „Дзякую", — паспелася я сказаць, можа было яно й запозна — ня ведаю.

Малая тая хатка — Палякі называлі яе „домэк Адама Міцкевіча", а афіцыйны назоў быў „Музэй, прысьвечаны Адаму Міцкевічу". Наведала яго пару разоў, месца не адпаведнае, уціснуўся ён паміж гандлярскіх крамак, шумных і брудных.

Напэўна вам цікава даведацца: чаму, зь якое прычыны наважыў спаткацца найвялікшы беларускі паэт з Станіславам Станкевічам? Прычына была звычайная: паміж кніжак у тэй „хатцы А. Міцкевіча" знайшоў Купала кнігу, якая моцна яго зацікавіла. Кніга была аўтарства Станіслава Станкевіча, у польскай мове, пад загалоўкам "Pierwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej". Відавочна, яна яго зацікавіла, адчуў патрэбу спаткацца з аўтарам. Наведаў Купала тую хатку не адзін, але, як пазьней мы пабачылі, зь нейкім „спадарожнікам".

Вось мы ўжо у тэй хатцы і ўглядаемся ў „дзядзьку Купалу", як назваў яго адразу Стась, а ён усьміхаецца. Аздабляе твар ягоны такая цёплая ўсьмешка. Вітаемся, знаёмімся. У тэй хатцы быў яшчэ й той чалавек — высокі мужчына з быстрымі цікаўнымі вачыма. „Гэта мой спадарожнік", — ціхім голасам прамовіў Купала. Нам ня цяжка было здагадацца, што гэта той „казённы ахоўнік".

Пачынаецца дыскусія пра кнігу Стася, на ёй канцэнтруецца ўся ўвага. Пасьля пераходзім і на прыватныя тэмы, а першым пытаньнем Я. Купалы было: „Ці ня будзеце вы далёкімі сваякамі маёй жонкі? Яна мае тое-ж прозьвішча". На адмоўны адказ заразгаваў усьміхнуўшыся: „Нічога, я ўсяроўна ўжо залічыў вас у сваякі". І ўвесь далейшы час ажыўлена, дасьціпна жартаваў.

Стася пачала дэнэрваваць прысутнасьць таго „ахоўніка". Праўда, чалавек той у гутарку ня ўмешваўся, але ўважна прыслухоўваўся. Стась запрапанаваў наведаць блізкі рэстаран, гаспадар якога быў нашым знаёмым. Пайшлі, а за намі і Купалаў „спадарожнік". „Не паскупецеся з напіткамі, — шапнуў Купала, — трэба выэлімінаваць сьветку". Зь пітва той незнаёмы выбраў гарэлку, мы пілі віно. Гарэлка зрабіла сваё і ў хуткім часе мы яго ўклалі на канапу ў суседнім пакоі, і ён заснуў.

Тады пачалася цікавая шчырая размова.

У савецкім друку характэразывалі ціраз Янку Купалу, як маўклівага, замкнёнага ў сабе чалавека. З намі-ж гутарыў зусім іншы Купала: гаваркі, ўзбуджаны энтузіяст. Усе дэталі нашага жыцьця ў Наваградку яго цікавілі, асабліва цікавіўся беларускім маладым пакаленьнем — моладзьдзю.

Даведаўся ад Стася і пра выклікі яго у НКВД на допыты, пра зьдзек на допытах ды іншыя мэтады тэрору. Нешта падобнае расказаў і Купала: і яго выклікалі на допыты ў НКВД і яго перасьледавалі, што ў адчаі прабаваў скончыць самагубствам. Доўга сядзелі ў тым зацішным рэстаране, гутарка вялася адкрыта й шчыра. І нарадзіўся поўны ўзаемны давер. „Тыя допыты, тое трактаваньне, — казаў Купала, — забівалі ахвоту да творчай працы. Чакалі ад мяне панэгірыкаў. Мэтады іхныя зьнеахвочвалі навет да жыцьця. А перад жонкаю ўсё прыхоўваю, маўчу, шкадую яе". А за нейкі час выбачаецца. „Даруйце, што пажаліўся, лягчэй стала, як падзяліўся з вамі сваімі пакутамі". І пасьля: „Я рады, што вас спаткаў. Лягчэй мне будзе пераносіць цяжкі час, што мяне яшчэ чакае".

Час мінаў, выглянуў з другога пакою „спадарожнік", праспаўся, быў задаволены, напіўся з намі кавы.

А Купала ўсё меў новыя тэмы-пытаньні: папрасіў мяне расказаць пра сябе. Я сканфузілася. Але-ж нешта трэба было сказаць: „Я звычайная настаўніца польскай гімназіі,—пачала я,—люблю вучняў, вучаніц, знаходжу сьцежку да іх. Мне вучні давяраюць свае праблемы". Расказала, як перахоўвала дзяцей (ціраз у сваёй хаце), ды не я адна гэта рабіла, былі добрыя людзі. Чырвоная армія („вызвольнікі", як яны сябе называлі) наводзіла парадак, вывозячы эшалонамі на пакуты з роднае хаты насельніцтва, галоўна інтэлігенцыю, як „ворагаў народу": цэлымі сем'ямі, зь дзецьмі. Дзяцей перахоўвалі на просьбу бацькоў, шмат каго выратавалі ад зьгубы. Прапанавалі мне перайсьці у расейскую гімназію, не пайшла, засталася зь недабіткамі школы.

Слухаў уважна Я. Купала, працягнуў да мяне руку ды пацалаваў маю.

Прыйшоў час і на разьвітаньне. Як самыя блізкія сваякі, разьвіталіся — „вось і пазнаў я вас абаіх глыбей, мае дараженькія".

Я старалася стрымаць сьлёзы, што спылалі з вачэй, глянула на дзядзьку Купалу, ён выцірае незаметку хустачкай вочы.

„Даўно так добра ня чуўся, так лёгка, як сяньня. Я рады, што сустрэўся з вамі. Ці пабачымся яшчэ калі, невядома. Буду памятаць вас, дарагія прыяцелі".

Абдымкам і пацалункам разьвіталіся.

**Зінаіда Станкевіч**

**Анатоль Цярошка**

***

Калі паходжаньнем
хто папракне мяне,
Калі слых яго рэжа
мая беларуская мова,
Я не пачну зь ім спрэчкі,
не,
Міма вушэй прапушчу
яго кожнае слова.

Гукі роднае мовы
я ад маці ўсмактаў,
Сэрца музыку
іх памнажала.
Я да краю любоў
у гэных гуках спазнаў,
Калыханкаю-гуляю маці
мяне спавівала.

Мне саромецца продкаў
сэнсу няма,
Не зладзеі яны
й ня каты.
Тут асelі спрадвечна
яны не здарма,
Бо прывольле Палесься
вакол мае роднае хаты.

Мы спакойны й нат
флегматычны часам.
Нас ня лёгка
крануць за жывое.
Але здарыцца можа,
што ўсё калясом
Завіхурыцца. Калі наша цярплівасьць разьліецца магутнай ракою.

Беларус, не саромейся
мовы свае.
Яна праз вякі
чысьціню захавала.
Яна маткаю мовам суседнім
стае:
Зь яе руская мова
калісьці паўстала.

Прыйдзе час, як асьвета
ўсіх захлыне,
Як бянтэжыцца мовы й сябе
перастанем.
І тады ,мой суродзіч,
павер мне,
Мы другімі ў вачах сьвету
паўстанем.
. . . . . . . . . . . . .
Калі-ж маёй беларускасьцю
хто папракне мяне,
Калі слых яго рэжа
мая беларуская мова,
Я не прапушчу гэта міма вушэй,
не,
Я знайду для яго
адпаведнае слова.

Мінск, 1962 г.
ЗША, 1981 г.

**ЗЬ ВЕРШАЎ МІХАСЯ ЯРЭМІЧА**

**Адзінота**

Адзінота, прыяцелька мілая!
Я з Табой, як зь сястрою, жыву —
Буду верны Табе да магілы я,
Да якой у натоўпе брыду...
Цішынёю мяне Ты пакоіш
І жыцьцёвыя раны гоіш.
Адзінота, цудоўны бальзам,
Я Цябе за нішто не аддам!
Адзінота, Ты верная служка,
Ты мяне не пакінь, не ўцячы!
Рана бачу Твой сьлед на падушцы -
Мне ня сьпіцца з Табою ўначы...
Ты дзяцінства маё спамінала...
Плянавала наступны дзень...
Ты са мной ўсё жыцьцё гаварыла
Неадступна і верна, як цень!

Брусэль ,ноч, 16. 2. 81 г.

**Брату**

Шэпт стоптанай травы
Ты чуў калі, скажы?
Калі брата клалі ў магілу,
Калі Маму на могілкі нясьлі,
Калі Тата сьвет пакінуў...

Я чуў гэты шэпт таптанай травы!
Шэпт паміраючай травы
Я чуў на мяжы,
Што наш сьвет разьдзяліла...

Дзеля гэтай мяжы
Не адзін з нас загінуў,
Альбо родную хату пакінуў!
Шэпт растучай на магілах травы
Нас яшчэ не пакінуў...

Брусэль, 5. 5. 80 г.

**На народную тэму**

Гляджу — бяжыць мая доля
Сярод чыстага поля...
Хацеў яе затрымаць,
Ды нядоля каленьмі налегла
Й не дае мне ўставаць!

Прытаіўся, нібыта паконан,
І тайком напружваю сілы...
Хутка будзе мой вораг
Ланцугамі закован —
Хутка будзе нядолі магіла!

Брусэль, 18. 5. 80 г.

**Калі ласка,** прысылайце ў рэдакцыю „Беларуса" выразкі зь мясцовага друку пра Беларусь або людзей беларускага паходжаньня, каб пападаць пра гэта да агульнага ведама.

## КУПАЛАЎСКІ ЮБІЛЕЙ З САМАВАРАМІ ДЫ ПЕСЬНЯЙ „Я ЛЮБЛЮ ТЕБЯ, РОССИЯ"

Чытач падумае, што нехта з глузду зьехаў, ці мо гэта наўдалы, бязгустоўны жарт. Але тут — ні тое і ні другое, а запраўднасьць. Дакладна гэтымі атрыбутамі і адзначаўся ў Араў Парку ў штаце Нью Ёрк стагадовы юбілей вялікага беларускага песьняра 1-га жнівеня сёлета.

Сваім часам мне давялося апісаць адчыненьне помніка Янку Купалу ў тым-жа Араў Парку пад гукі „Яблычка" („Беларус" № 196, 1973). Загаловак той перадаваў зьмест падзеі. Падобна-ж і сяньняшні загаловак адлюстроўвае сёлетнюю падзею. І, як той казаў, з пэрспэктывы часу, гэнае „Яблычка" было толькі кветачкай, яблычка-кветачка, а ягадкі былі яшчэ наперадзе. Ягадкі былі запашаныя да сьвяткаваньня купалаўскага юбілею.

Рыхтавацца да юбілею араўпаркаўцы пачалі рэклямай у газэце „Русский Голос" пару месяцаў наперад. Рэклямавалася гэтая падзея, заплянаваная на 1 жнівеня, як „Русско-белорусский день — 1 августа (столетие со дня рождения Янки Купалы)". Аднак, відаць, для большае ўрачыстасьці, падзея ў дзень сьвяткаваньня ператварылася ў патройны юбілей: 1. 65-цігодзьдзе газэты „Русский Голос"; 2. стагодзьдзе ад дня нараджэньня Янкі Купалы; ды 3. сьвята дружбы расейскага й беларускага народаў.

Патройны юбілей пачаўся ўскладаньнем вянкоў ля помнікаў Пушкіна , Шэўчэнкі й Уітмана, ну і (добра, што не забыліся) Янкі Купалы. Потым пачалася ўрачыстая частка: прамаўлялі Украінцы, прадстаўнікі „русской общественности" ды першы заступнік галоўнага рэдактара маскоўскае „Литературной Газэты" Ю. П. Ізюмаў. Гэты апошні, у адзначэньне пашаны да газэты „Русский Голос" падараваў рэдактару гэтае газэты тульскі самавар. Затым ішлі прамовы аб дружбе з расейскім народам ды канцэрт, які пачаўся песьняй „Я люблю тебя, Россия". Далей пяяліся „Калинка", „Коробейники" і г.д. Энтузіястычна быў праведзены збор грошай на „Русский Голос" ды надкрэсьленая роля гэтае газэты для „рускае эміграцыі".

Вось гэтак і сьвяткавалася. А чытач напэўна сьпытаецца: а дзе-ж адзначэньне купалаўскага юбілею? Вось-жа было й гэткае: у аўдыторыі знайшлося пару працаўнікоў зь беларускае савецкае місіі ў Нью Ёрку. Іх і паклікалі сказаць пару беларускіх вершыкаў. Ну, а ведама-ж, што зь беларускай мовай у „беларускай" місіі цяжкавата (у місіі беларускае мовы ніхто і ня ўжывае і ня ведае), дык давялося неяк гаварыць жаргонам: расейска-беларускім з ангельскай прымешкай для стварэньня ўражаньня інтэрнацыянальнасьці.

Вось гэтак адзначаўся у Араў Парку купалаўскі юбілей. Ці-ж гэта ня ягадкі? Калі яшчэ раней хоць для формы запрашаліся дэлегаты з БССР, дык цяпер і гэтага не патурбаваліся зрабіць, непатрэбная была нават і форма. І зьведзены быў гэты „юбілей" да таннае расейскае эстрады, калі не сказаць насьмешкі.

**В. Зубкоўскі**

### ДОКТАР АННА ЗАНЬКО

У чырвені сёлета сп-чна Анна Занько, дачка Ануфрыя й Софіі, закончыла мэдычны факультэт унівэрсытэту ў гор. Бірмінгаме (Ангельшчына) з тытулам доктара мэдыцыны. Яшчэ як Анна была студэнткай, унівэрсытэт запрапанаваў ёй, каб яна брала спэцыяльны, цяжэйшы курс (Honours Degree).

Анна гэты курс узяла й здала ўсе экзамены. Дзеля азнаямленьня з замежнай мэдыцынай, др. А. Занько езьдзіла на практыку ў Канаду й Амэрыку. Сёньня яна працуе ў шпіталі ў Бірмінгаме.

Бацькі, радня й прыяцелі жадаюць Аньне далейшых удачаў у навуковай працы.

**М. Шведзюк**

### ПЕРАМЕНЫ Ў КІРАЎНІЦТВЕ БІНіМ

Дзеля адыходу з прычыны стану здароўя д-ра Вітаўта Тумаша ад актыўнае грамадзкае дзейнасьці, на сходзе ўправы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва 25 ліпеня сёлета функцыі Управы Інстытуту былі размеркаваныя гэтак: др. Вітаўт Кіпель — старшыня, праф. Антон Адамовіч — заступнік старшыні, др. Янка Запруднік — сакратар, сп. Антон Шукелойць — скарбнік, сп-ня Зора Кіпель — сябра ўправы.

**ПРОСІМ ЗДАБЫВАЦЬ НОВЫХ ПАДПІСЧЫКАЎ „БЕЛАРУСА" НА НАСТУПНЫ 1983 ГОД!**

## ВЕРШЫ З ТАГО БОКУ

**Ад Рэдакцыі:** Навакольнымі шляхамі, дзякуючы добрым людзям, дайшлі да нас з Усходу восем рукапісных балонак вершаў, галоўны зьмест якіх — рэлігійныя й філязофскія разважаньні ды матывы Бацькаўшчыны - Беларусі. Ніжэй зьмяшчаем некаторыя з гэтых вершаў і дзякуем за іх іхнаму аўтару — Зьнічу.

**ЗЬНІЧ**

**Рэха малітвы**

Па-за зямнымі багацьцямі,
за ўзнагародай і карай
шэпчуцца рыфмы з паняцьцямі
там, дзе адвольныя мары...

***

Вякі плывуць,
а Ён —
раскрыжаваны,
жывы...
ў крыві цячэ
цьвікоў іржа...
і род людзкі
лянівы
апантаны
ня мае сілы
зьняць Яго
з крыжа...

***

З россыпу слоў — крышталю
прэлюдыяй і высновай
промнем Хрыстовай хвалі
блісьне
Боскае
слова...

***

За што ты церпіш неадольны зьдзек
адчужанай абрыдлай працы?
Куды плывеш ты, Божы чалавек,
прыкуты да галер цывілізацыі?
. . . . . . . . .
Мне рэхам
першародны грэх ....

***

Плынь плыве цячэ,
гоніць срэбра хваль
і ні ў кога дарог ня пытае.
Колас

Дзе у сьвеце плыве Беларусь?
Там, дзе ў сьпевах пагодные слова,
узыходзіць крывіцкае рэха...
дзе вякі узнаўляюць нанова
еднасьць сьвету з душой чалавека...
дзе нябачна ужо небакраю
адухоўленасьці нястомнай...
і ў нікога дарог ня пытае
люд пакорлівы і нязломны...
Там павольна плыве Беларусь,
дзе зьліваюцца сум і сумленьне,
дзе адвечнае супраціўленьне,
дзе блакітны мужык
Кастусь...

***

Не пакідайце-ж мовы нашай
беларускай, каб ня ўмерлі!
Багушэвіч

Ўмерлі... заглыбілі сум і маўчаньне...
спраўдзілі ўсё, чым пакутаваў ты...
Горка і зьдзіўлена ўздых
разьвітальны
слухаюць крэўныя нашы браты...

Мовы падчаркі і каралеўны, —
Чаму так дзеецца, што вы няроўныя?
...Доляй забранай
бел-чырвона-белаю
моўчкі Мадонна
сына
ахоўвае...

***

Прагрэс — разьюшаная трызна
сумленьня, розуму, крыві...
А ты жыві,
Беларушчызна,
ў самоце...
падчаркай...
Жыві!

(Заканчэньне на 5-ай бач.)

# "БЕЛАРУСКАЯ СПАДЧЫНА У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ"

**Рэцэньзія**

Выдавецтва ўнівэрсытэту амэрыканскага гораду Кліўленду нядаўна выдала працу ў ангельскай мове пад загалоўкам „Амэрыканскія Беларусы і іхныя пасяленьні ў Кліўленьдзе". Праца гэтая — адна з сэрыі манаграфіяў, якая мае назоў: „Вывучэньне этнічнае спадчыны Кліўленду" і мэта якой — разьвіваць і замацоўваць сьведамасьць этнічна-нацыянальнага паходжаньня ў вучнёўскай моладзі, для якое галоўна і выдаюцца кнігі. Сэрыя гэтая мае складацца з 28-х манаграфіяў, частка якіх ужо выйшла, а частка выйдзе ў наступным годзе. Працы сэрыі „Вывучэньне этнічнае спадчыны Кліўленду" прысьвечаныя, як і сказана ў ейным назове, розным аспэктам праблемы вывучэньня этнічнае спадчыны шматлікіх нацыянальных групаў, што складаюць насельніцтва гэтага буйнага прамысловага асяродку штату Агаё.

Кнігу „Амэрыканскія Беларусы і іхныя пасяленьні ў Кліўленьдзе" апрацаваў др. Вітаўт Кіпель, сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, піянер вывучэньня гісторыі беларускай эміграцыі ў Злучаных Штатах Амэрыкі і аўтар многіх артыкулаў на гэтую тэму.

Манаграфія пра Беларусаў Кліўленду вялікага фармату. Яна складаецца з васьмёх разьдзелаў і даволі багатай бібліяграфіі. У ёй каля 70 чорна-белых фатаздымкаў і этнаграфічная карта Беларусі. Уступ да манаграфіі напісаў прафэсар ньюёркаўскага Квінскага Каледжу Томас Бэрд.

Манаграфія „Амэрыканскія Беларусы і іхныя пасяленьні ў Кліўленьдзе" адкрываецца разьдзелам „Беларусь і Беларусы" — інфармацыяй пра Беларусь, ейную тэрыторыю, насельніцтва, прыродныя багацьці, прамысловасьць, сельскую гаспадарку, культуру й асьвету. Затым ідзе гістарычная храналёгія, падаюцца беларускі кірылічны і лацінскі альфабэты. Для неабазнанага англамоўнага чытача, аўтар выясьняе тэрміналёгію Беларусі, адзначае, што з прычыны блытаніны, якая існуе ў гэтым пытаньні, паўстала й блытаніна адносна беларускага жыхарства ў Амэрыцы.

Згадаўшы пра першадрукара Беларусі Францішка Скарыну і ягоную Біблію ды пра Статут Вялікага Княства Літоўскага, др. Вітаўт Кіпель падае асноўныя факты зь гісторыі Беларусі. Цытуе ўрывак з артыкулу, надрукаванага ў 1904 г. у ангельскім часапісе „Англо-Рашэн", у якім аўтар расказвае, як Беларусь, што на працягу некалькіх стагодзьдзяў існавала як культурны цэнтар на ўсходзе Эўропы, была пазбаўленая маскоўскімі царамі сваіх найбольш недатыкальных правоў і змушаная існаваць ува ўмовах сярэднявечча. Гэтыя жахлівыя ўмовы, створаныя Масквою, піша др. Кіпель, і былі галоўнай прычынай эміграцыі Беларусаў у Амэрыку.

У наступным, другім разьдзеле, аўтар манаграфіі спыняецца на гісторыі беларускай эміграцыі ў Амэрыцы, пачаткаў якое трэба шукаць у першай палове 17-га стагодзьдзя, калі на амэрыканскую зямлю пачалі прыбываць першыя паасобныя эмігранты зь Беларусі. Масавага характару эміграцыя набрала ў канцы 19-га — на пачатку 20-га стагодзьдзяў, затым у міжваенным пэрыядзе і па Другой сусьветнай вайне.

Што да гісторыі пасяленьня Беларусаў у горадзе Кліўленьдзе, дык паводля Вітаўта Кіпеля яна сягае ў пачатак 20-га стагодзьдзя. Аднак масавае прыбыцьцё Беларусаў у Кліўленд пачалося толькі па сканчэньні Другой сусьветнай вайны, асабліва на пачатку 50-х гадоў, у вялікай меры дзякуючы аднаму зь першых паваенных пасяленцаў сп. Міхасю Белямуку. Міхась Белямук прыбыў у Кліўленд у жніўні 1949 году. Ад гэтага часу й пачынаецца запраўдная гісторыя кліўлендзкіх Беларусаў. Дзякуючы ягоным стараньням і ахвярнасьці ,змаглі перабрацца з Эўропы ў Кліўленд і іншыя Беларусы.

Ужо ў 1950 г. паўстала ў Кліўленьдзе першая беларуская арганізацыя — Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. З часам там паўстала Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, пачало сваю дзейнасьць выдавецтва, стварыўся гурток мастацкае самадзейнасьці, хор, была збудаваная царква. Ад 1952 г. пачало вельмі актыўную дзейнасьць Беларускае Жаночае Згуртаваньне, разьвілі сваю дзейнасьць Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, студэнцкае згуртаваньне ды іншыя беларускія арганізацыі.

У жыцьці й дзейнасьці кожнай эміграцыі вялікую ролю адыграе царква. Адсутнасьць нацыянальна сьведамых беларускіх сьвятароў і сталася галоўнай прычынай таго, што старая беларуская эміграцыя растварылася ў чужым моры расейскае й польскае эміграцыяў. Беларусы, якія пачалі прыбываць у Кліўленд па Другой сусьветнай вайне, добра ўсьведамлялі сабе гэты факт. Таму адразу і пачалі ад арганізацыі свайго царкоўнага жыцьця. Гэтаму якраз пытаньню аўтар манаграфіі „Амэрыканскія Беларусы і іхныя пасяленьні ў Кліўленьдзе" прысьвячае цэлы разьдзел на 20 старонак. У ім ён расказвае пра першыя нялёгкія крокі арганізацыі праваслаўнае парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе ды ейнае далейшае разьвіцьцё й дзейнасьць, затым апісвае бытавыя й нацыянальныя традыцыі — рэлігійныя сьвяты, калядныя й вялікодныя традыцыі і фэсты.

Асобны разьдзел манаграфіі аўтар прысьвяціў сацыялягічна-прафэсіянальным аспэктам. У ім ён расказвае пра месца расьсяленьня Беларусаў у Кліўлендзе, аб тым, як яны ўладжваліся на працы, як забясьпечвалі асьвету сваім дзецям. Вельмі каштоўныя й надзвычай цікавыя ў гэтым разьдзеле сьветчаньні сям'і Лук'янчыкаў, Васіля Дурэйкі, Янкі Ханенкі і Ўладзімера Сваятыцкага, што прыбылі ў Кліўленд у розныя часы і якія ўважаюць цяпер Амэрыку за сваю другую бацькаўшчыну.

Далей у наступных разьдзелах др. Вітаўт Кіпель апісвае падрабязна бытавую культуру кліўлендзкіх Беларусаў, нацыянальную вопратку, вырабы; інфармуе пра мясцовы беларускі друк, спартыўную дзейнасьць; расказвае пра сьвяткаваньні нацыянальных і гістарычных угодкаў — усяго не пералічыш.

Апошні разьдзел манаграфіі прысьвечаны сучаснаму стану беларускай этнічнай групы ў Кліўленьдзе. У канцы-ж кнігі, як мы ўжо сказалі на пачатку, падаецца даволі багатая бібліяграфія, якая можа паслужыць для далейшага вывучэньня гісторыі пасяленьня Беларусаў у Амэрыцы наагул і ў Кліўленьдзе ўпаасобку.

Паводля весткі, якую мы толькі што атрымалі ад самога аўтара манаграфіі, праца пра кліўлендзкіх Беларусаў — толькі пачатак. Доктар Вітаўт Кіпель мае намер напісаць манаграфіі і пра іншыя беларуска-амэрыканскія грамады, а іх каля дзесятка, заканчваючы сэрыю большай працай пад загалоўкам „Беларусы Амэрыкі". У сувязі з гэтым жадаем яму шчыра вялікіх удачаў!

**Віктар Сянкевіч**

# ЗНОЎ У ПАРКУ СВАБОДЫ

Чытачом „Беларуса", асабліва нам, Беларусам штату Нью Джэрзі, парк Свабоды, што ў горадзе Джэрзі Сіты, якраз насупраць Статуі Свабоды, ужо добра ведамы. Чатыры гады таму ў парку пачаліся агульна-штатавыя двухдзённыя этнічныя фэстывалі, і мы, Беларусы, удзельнічалі ў гэтых фэстывалях ад пачатку. Выступалі мы там і зь песьняй, і з танцам, і з музыкай. Паказвалі ткацтва, пляценьне паясоў; мелі мастацкія выстаўкі ды знаёмілі шырэйшае грамадзтва з нашай кухняй.

Сёлета фэстываль адбываўся 11-12 верасьня. На беларускай выставе, апрача заўсёдных ткацкіх вырабаў, было шмат дрэварытаў, вырабаў з саломкі, ільну, вышыўкі ды беларускіх лялек. Але асаблівая ўвага й зацікаўленьне ўсіх былі зьвернутыя на дэманстраваньне пражы сп-няй Надзяй Кудасавай. Надзя ціраз ужо была на тэлебачаньні і ў газэтах, ды робіцца яна ведамай цэламу штату ўсё шырэй. Дарэчы, цяпер Надзі выдатна дапамагае ейная здольная вучаніца й пляменьніца Лора Рагалевіч.

На кніжным стэньдзе — творы Янкі Купалы й Якуба Коласа, жэтоны прысьвечаныя іхнаму стагодзьдзю ды англамоўная літаратура пра Беларусь.

Наведвальнікаў каля нашга стэнду было вельмі шмат — трэба сказаць, што сёлета нашае месца было надзвычайна ўдалае, пры самым уваходзе, на добрым віду. Значна больш, як мінулымі гадамі, было нашчадкаў старых эмігрантаў зь Беларусі, якія пачынаюць атаесамляць сябе зь беларускай спадчынай.

Зь некалькіх рэпартажаў пра фэстываль у амэрыканскім друку асабліва трэба зазначыць адзін у газэце „Стар Лэджэр" за 12-га верасьня. Журналістка Дана Лейзнэр зрабіла інтэрв'ю з Надзяй Кудасавай ды пра Беларусь напіс гэтак: „Параўнальна мала ведамая краіна Беларусь, якаядрадзіла сваю незалежнасьць 64 гады таму, была аднэй з найбольш экзатычных нацыяў на фэстывалі".

Фэстываль наведала таксама шмат урадаўцаў, а губэрнатар штату Том Кейн выдаў адмысловую праклямацыю, у якой адзначыў уклад кажнае нацыянальнасьці, уключна зь беларускай, у культурнае разьвіцьцё штату.

Хоць для бальшыні з нас першыя два тыдні верасьня былі бяз сыботаў і безь нядзеляў, аднак мы ўсе чуліся вельмі добра, што яшчэ прарабілі нейкую працу.

А арганізоўвалі фэстываль сёлета сп-ня Надзя Кудасава, сп-ня Галіна Русак, сп. Васіль Русак, сп-ня Марыя Кажура, сп. Пётра Кажура, сп-ня Валя Рагалевіч і Лора Рагалевіч, др. Вітаўт Кіпель ды аўтарка гэтай зацемкі.

**Зора Кіпель**

З ЖЫЦЬЦЯ Ў БРАДФАРДЗЕ

**БЕЛАРУСКАЯ КАРАЛЕВА БАЛЮ**



Лёс, што кінуў Беларусаў у далёкі ад Бацькаўшчыны Брадфард (Ангельшчына), быў аднак, прыхільным у далейшым: зарганізаваныя ў Згуртаваньні Беларусаў у Вялікабрытаніі, Беларусы стварылі тут свой нацыянальны клюб, што дзейны й датэгуль. Брадфардзкі аддзел ЗБВБ, прадстаўнікі якога ўваходзяць у Камітэт Паняволеных Народаў, браў удзел у балі, арганізаваным гэтым Камітэтам.

Баль адбыўся ў сыботу 22 траўня ў памешканьні Латыскага клюбу. Пяць прыгажуняў рэпрэзэнтавалі на балі свае народы, а нас, Беларусаў, — сп-чна Ніна Шпігановіч з Манчэстэру. У склад журы ўваходзілі: заступнік бургомістра Брадфарду сп-ня Джоанна Эванс з мужам, сябра парляманту Бэн Форд і сп. Рон Фалы. Нялёгкую задачу журы разьвязала на нашу карысьць, прызнаўшы Ніне Шпігановіч першае месца — тытул каралевы балю.

Хочацца выказаць тут падзяку ўправе клюбу „Сакавік", а асабліва сп. Хведару Лемяшонку, за матар'яльную дапамогу ў сувязі з выдаткамі на ўдзел у балі.

**Я. Я.**

# ЗЬ БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў АЎСТРАЛІІ

## У СЫДНЭІ

**Угодкі Другога Кангрэсу й Б.К.А.**

У Сыднэі 4 ліпеня былі адзначаныя 38-ыя ўгодкі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу й стварэньня Беларускае Краёвае Абароны.

Акадэмію, ладжаную Каардынацыйным Камітэтам, адкрыў сп. Міхась Зуй. Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. Аляксандар Смаль, пачаўшы яго словамі Кастуся Каліноўскага: „Ваюй, народзе, за сваё чалавечае й народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе спад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе".

Коратка падкрэсьліўшы галоўныя этапы змаганьня, пачатага Каліноўскім, прэлегэнт расказаў пра абставіны, у якіх дайшло да стварэньня Беларускае Краёвае Абароны й скліканьня Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Немцы, апынуўшыся ў цяжкім стане на ўсходнім фроньце, змушаныя былі пайсьці на сустýпкі, і Беларусы выкарыстоўвалі гэты стан выключна для абароны свайго жыхарства, як перад Немцамі, гэтак і перад бальшавікамі. Прэлегэнт з абурэньнем, якое падзялялі й прысутныя, адкінуў хвальшывыя й беспадстаўныя абвінавачваньні Беларусаў у калябаранцтве зь Немцамі, якія рабіліся нядаўна на тэлябачаньні і ў друку ЗША. Сп. Смаль закончыў свой рэфэрат словамі Янкі Купалы:

Напасьцяй, лаянкай напраснай
Грудзей ня варта мазаліць —
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў Беларус і будзе жыць!

Хвілінай маўчаньня была ўшанаваная памяць памерлага нядаўна вернага сына нашага народу др. Язэпа Малецкага ды ўсіх, хто загінуў у змаганьні, каб жыла Беларусь.

Ніна Зуй прадэклямавала верш „Не пагаснуць зоркі ў небе" Янкі Купалы. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем нашага нацыянальнага гімну.

Пасьля адбыўся супольны абед, за што належыцца падзяка галоўным гаспадыням сп-ням Олі Тамашэўскай і Лёлі Олрайт.

**Традыцыйны купальскі баль**

Беларускі Грамадзка-Культурны Клюб у Сыднэі ладзіў 19 чырвеня свой традыцыйны купальскі баль. Сабралася даволі шмат народу, дык было й весела: можна было патанцаваць і павесяліцца пры чарцы й добрай закусцы. Былі й розныя забавы, а хіба найлепшай — купальская варожка, што на радасьць сваіх кліентаў прадказвала толькі ўсё добрае.

Баль прайшоў удала й нядрэнна павялічыў клюбную касу. Аднак, найважнейшае, хіба, гэта тое, што сярод нас жывуць цудоўныя традыцыі нашага народу. Шчырае дзякуй арганізатарам.

**300 беларускіх радыяперадачаў**

Беларуская сэкцыя Этнічнага радыё ў Сыднэі сваю 300-ую праграму адзначыла 16 сакавіка сёлета. Шэсьць гадоў працы прайшлі неўзаметку, а цяпер працаўнікі й самі дзівяцца, як гэта сталася. Відаць, пачуцьцё абавязку й падтрымка з боку шматлікіх слухачоў дадавалі ахвоты да працы.

Тэмы ў радыяперадачах былі самыя разнаякія: 25 Сакавіка, Даўнар-Запольскі, беларускае малярства ў Польшчы пры Ягайлавічах, Вялікдзень, Алесь Салавей, гісторыя вырошчваньня вінаграду на Беларусі й адлюстраваньне гэтага ў народнай творчасьці, Язэп Пушча, Уладыслаў Галубок, Віталь Цьвірка — сучасны мастак, Купальле й г.д. Апошняя праграма, 317-ая з чаргі, перадазеная 13-га ліпеня, была прысьвечаная 100-ым угодкам ад нараджэньня Янкі Купалы.

Між іншага, Сустрэча Беларусаў Аўстраліі, што адбудзецца сёлета ў Сыднэі, будзе прысьвечаная стагадоваму юбілею нашых несьмяротных Купалы й Коласа.

**Гадавы сход Клюбу**

22-га жніўня адбыўся гадавы перавыбарны сход Беларускага Грамадзка-Культурнага Клюбу ў Сыднэі. Са справаздачаў старшыні сп-ні А. Калпякі, сакратара М. Мілеўскага й скарбніка сп. В. Плахоцкага вынікала, што з ладжаных мерапрыемстваў Клюб меў малы прыбытак, найбольш ад Жаночага Камітэту (старшыня сп-ня О. Тамашэўская, скарбнік Л. Олрайт), якому й была выказаная спэцыяльная падзяка.

У новую ўправу Клюбу выбраныя: старшыня — М. Лужынскі, сябры: М. Антух, А. Бакуновіч, Я. Гавеньчык, А. Галашук, М. Зуй, І. Калпяка, А. Корзун, В. Л., В. Плахоцкі, Б. Стукач, О. Тамашэўская.

Жаночы Камітэт застаўся ў ранейшым складзе.

Сход падвысіў сяброўскія складкі, зацьвердзіў афіцыяльнага рахункавода й абмеркаваў справу дамаганьня гарадзкое ўправы Фаерфільду адкупіць будынак Клюбу пад заплянаванае горадам прадпрыемства. Пытаньня гэтага сход ня вырашыў і даручыў новай управе Клюбу разгледзець дакладна ўсе магчымасьці. Ад вынікаў разьвязаньня гэтае справы й будзе залежаць далейшая доля Клюбу. Таму й трэба пажадаць новай управе вытрываласьці і ўдачы.

**А. К-я**

## У МЭЛЬБУРНЕ

**Юбілей Я. Купалы й Я. Коласа**

У нядзелю 11-га ліпеня Беларусы Мэльбурну й ваколіцаў урачыста адзначылі 100-ыя ўгодкі ад нараджэньня вялікіх Янкі Купалы й Якуба Коласа. Урачыстасьць была праведзеная Беларускім Цэнтральным Камітэтам у Вікторыі й адбылася ў Беларускім Доме ў Мэльбурне.

Рэфэраты аб жыцьці й творчасьці клясыкаў беларускае літаратуры прачыталі А. Калодка й М. Скабей. Дэклямавалі вершы сп. У. Сідлярэвіч („Я ад вас далёка" Купалы й „О, край родны" Коласа) і сп-ня Ліля Яцкевіч („Брату на чужыне" Купалы й „На адзіноце" Коласа).

Пасьля ўрачыстасьці адбылося традыцыйнае ўжо сяброўскае спатканьне.

Пры гэтай нагодзе варта прыгадаць, што больш як 20 год таму Беларусы Мэльбурну паставілі сцэнічны абразок Купалы „На папасе", а Беларуская Сыботняя Школа зрабіла інсцэнізацыю Купалавага вершу „Сын і Маці". У ролі Маці выступала сп-ня Надзя Груша, а ў ролі Сына — Піліп Грыцук.

**А. К-а**

## У АДЭЛЯЙДЗЕ

**Сьвята Апосталаў Пётры й Паўла**

Так як наша царква носіць імя сьв. Пётры й Паўла, мы адзначаем штагоду гэтае сьвята вельмі ўрачыста. Гэтак было й сёлета. Сьв. Літургію служыў а. Аўген. Хор быў у поўным складзе, з удзелам у ім некаторых украінскіх гасьцей, пяяў вельмі прыгожа пад кіраўніцтвам сп. М. Бурноса. Царква была напоўненая вернікамі, настрой быў запраўды сьвяточны.

Пасьля Літургіі а. Аўген адслужыў малебен з удзелам у ім сьвятара Ўкраінскае Праваслаўнае Царквы а. Дымітра Шаблі.

У прыцаркоўнай залі адбыўся супольны абед, прыгожа й смачна зрыхтаваны стараньнямі сястрыцтва нашае парахвіі, якому ўсе шчыра дзякавалі. Прысутных было 130 асобаў.

Айцец Дымітры й а. Аўген сказалі прачулыя словы пра сьвятых Патронаў нашае царквы ды заклікалі да згоднага жыцьця й цьвёрдае веры, якою адзначаліся апосталы Пётра й Павал.

Пасьля, паеўшы й выпіўшы, пяялі беларускія песьні й прыемна правялі час аж да 5-ай гадзіны вечара.

**В. Акавіты**

